Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 7 (4772)**

27 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

РЭПЛІКА

## Чаму на гэты раз Беларусь не дала адлуп генералу Рашэтнікаву?

*У эфіры расійскага тэлебачання зноў прагучала: “Беларусь – гэта частка “вялікай Расіі”.*



Прагучала не з вуснаў нейкага фрыка, не ад невуча з няпоўнай школьнай адукацыяй, не ад замежніка, для якога былы СССР і Расія гэта адно і тое ж. Прагучала з вуснаў адстаўнога генерала Службы знешняй разведкі, былога начальніка інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення СВР, а потым – дырэктара Расійскага інстытута стратэгічных даследванняў **Леаніда Рашэтнікава.**

Але дзівяць не такія заявы. На жаль, у расіян яны не адзінкавыя. Дзівіць рэакцыя афіцыйных асоб беларускай дяржавы, бо яны на адыёзную заяву генерала Рашэтнікава ніяк не адрэагавалі, дружна маўчаць.

Між тым пасля падзей ва Украіне на ўсе захады расійскіх палітыкаў, аналітыкаў і прапагандыстаў наконт “вялікай Расіі”, “гістарычна рускіх земляў”, “рускага міру” на постсавецкай прасторы дэмакратычная грамадскасць пачала рэагаваць жорстка. Каб расіяне не мелі ілюзій і нават не думалі ў гэты бок!

Адкрыта і прынцыпова выказаліся некаторыя кіраўнікі постсавецкіх рэспублік. Павагі да сваёй краіны публічна запатрабаваў ад Уладзіміра Пуціна прэзідэнт Таджыкістана **Эмамалі Рахмон**. Так і сказаў, у вочы: *«Зрабілі так, нібы мы краіны, якія… Не ведаю… Так, мы малыя народы. Нас не сто мільёнаў, не дзвесьце мільёнаў. Але мы маем гісторыю, культуру. Мы іх любім. Мы хочам, каб нас паважалі. Нічога не трэба – проста каб паважалі. Мы не жабракі, у нас багатая краіна: запасы мінеральных рэсурсаў – большыя, чым сістэма Мендзялеева”*. І запатрабаваў на сустрэчы ў Душанбэ, каб да Таджыкістана ў Расійскай Федэрацыі ставілася хаця б з такой жа павагай, як да краін Афрыкі.

У Азербайджане за антыазербайджанскую рыторыку заблакавалі нават сайт галоўнага інфармацыйнага агенцтва Расіі РІА “Новости”, а таксама анулявалі від на жыхарства кіраўнікам мясцовага аддзялення агенцтва “Спутнік” (імі, дарэчы, аказаліся грамадзяне Беларусі).

Адкрыта крытыкуюць за шавінізм Расію ў Арменіі. Нават у навагоднім звароце прэм’ер-міністр Арменіі **Нікал Пашынян** “прайшоўся” па галоўным сюзніку.

На кожны выпад наконт “рускіх земляў”, якія гучыць у эфіры расійсіх тэлеканалаў, жорстка рэагуюць у Казахстане. І кіраўніцтва казахскага МЗС, і міністры, і кіраўнікі палат парламента, і дэпутаты нязменна даюць адлуп падобным захадам.

І толькі Беларусь маўчыць, нібы так і трэба, так і правільна. Нібы мы саромеемся ці баімся бараніць сваю краіну, сваю дзяржаву, сваю самабытнасць, сваю незалежнасць, свае права на існаванне.

Між тым, яшчэ ў 2016 годзе таму ж Леаніду Рашэтнікаву давалі адлуп і “СБ: Беларусь сёння”, і беларускі МЗС. Тады генерал назваў Беларусь *“гістарычнай часткай Расіі, малой краінай, якая не можа жыць самастойна”*. У адказ “СБ”, заснавальнікам якой з’яўляецца Адміністрацыя прэзідэнта, назвала Рашэтнікава «балбатуном», глыбокім адстаўнікам « і «дылетантам», а МЗС Беларусі выклікаў дарадца-пасланніка пасольства Расіі і выказаў афіцыйны пратэст.

Дык што змянілася? Ці маўчанне гэта ўжо знак згоды?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

МІНСК–КІЕЎ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:



*– Не ведаю, навошта гэта ўкраінцам. З аднаго боку, просяць нас, каб мы ні ў якім разе не ваявалі з Украінай, каб нашы войскі туды не рухаліся. Пакт аб ненападзе прапануюць заключыць. А з іншага боку, рыхтуюць гэтую грымучую сумесь і ўзбройваюць іх. Польшча, Літва зусім ачумелі. Навошта ім гэта трэба? Не зразумела…*

## Уладзімір ЗЯЛЕНСКІ:



*– Мы сапраўды не збіраліся і не збіраемся нападаць на Беларусь. І гэта галоўны сігнал ад украінскага народа беларускаму народу. Для нас вельмі важна, каб Беларусь не страціла сваю незалежнасць і не ўступіла, нягледзячы ні на які ўплыў каго-небудзь, у гэтую ганебную вайну.*

З-ЗА КРАТАЎ

## У турме Алесь Пушкін збіраецца намаляваць партрэты Маслюка і Тарашкевіча

*Жонка мастака распавяла “Народнай Волі” пра апошнія навіны ад мужа.*

Як вядома, **Алесь Пушкін** знаходзіцца за кратамі з сакавіка 2021 года. Паводле Генпракуратуры, мастак *“здзейсніў дзеянні, накіраваныя на прапаганду нацызма і дзейнасці беларускіх калабарацыянісцкіх арганізацый”*. Маецца на ўвазе размяшчэнне на выставе ў Гродне партрэта ўдзельніка пасляваеннага беларускага антысавецкага руху Яўгена Жыхара.

30 сакавіка 2022 суд прызнаў Пушкіна вінаватым і прызначыў яму 5 гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму.

Пазней ён быў этапаваны ў папраўчую калонію № 22, але ў лістападзе мінулага года суд пастанавіў перавесці Алеся Пушкіна на турэмны рэжым тэрмінам на паўтара года. Зараз мастак знаходзіцца ў Гродзенскай турме № 1.

– Лісты ад Алеся прыходзяць рэдка, – кажа **Яніна Пушкіна**, жонка мастака. – Паколькі ён знаходзіцца на строгім рэжыме, то яму не дазволены перадачы. Вось муж і піша, што ў такіх умовах вельмі хочацца з’есці што-небудзь смачнае, але сітуацыя не дазваляе атрымаць такую асалоду.

Алесь паведаміў, напрыклад, што скідваюцца грашыма, купляюць у мясцовым буфеце цыбулю, разразаюць яе і частуюцца штодзень. Гэта, наколькі я зразумела, у іх адзіны вітамінны прадукт – палова цыбуліны на дзень. Увогуле, за месяц можна купіць у буфеце нешта з прадуктаў на 32 рублі.

**– Пра здароўе нічога не паведамляе?**

– Напісаў, што не можа есці свежы турэмны хлеб, бо яшчэ раней, калі служыў у Афганістане, перахварэў хваробай Боткіна. Таму той хлеб ужывае толькі ў падсушаным выглядзе.

**– Нейкія кнігі ў турме Алесь, напэўна ж, чытае…**

– Мы выпісалі яму газету “Літаратура і мастацтва”, а таксама часопіс “Мастацтва”. Знаёміцца з апошнімі навінамі ў галіне культуры, паведаміў, што ў яго з’явілася вялікае жаданне намаляваць партрэт лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, тэатральнага рэжысёра Валерыя Маслюка, якому ў сакавіку гэтага года споўнілася б 70 год.

Таксама хацеў бы намаляваць партрэт аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча, які ў свой час таксама сядзеў у Гродзенскай турме. Таму папрасіў мяне, каб даслалала яму фота гэтых асоб.

**– Мяркуеце, Алесю дазволяць у турме маляваць партрэты?**

– Вось гэта я дакладна не ведаю. Але зраблю так, як муж прасіў…

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Каб больш было падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”...

Так, шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова, у чарговы раз нагадваем, што рэдакцыя вельмі зацікаўлена ў тым, каб было больш падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”. На жаль, і да сённяшняга дня не вырашана праблема з допускам у друкарні, а значыць няма магчымасці папаўняць бюджэт за кошт рэалізацыі газеты ў папяровым варыянце, продажу яе праз шапікі і ў паштовых аддзяленнях. Вось чаму важна, каб колькасць падпісчыкаў на электронны варыянт газеты павялічвалася. І Вы, нашы сённяшнія чытачы, можаце гэтаму актыўна паспрыяць. Парайце, калі ласка, сябрам, саслужыўцам, суседзям, сваякам, каб і яны, як Вы, падпісаліся на PDF-версію газеты і на наш тэлеграм-канал.

***Нагадаем, што падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце belpressa.by. Для гэтага трэба зайсці на сайт belpressa.by, націснуць укладку «2023» і выбраць месяцы, на якія Вы будзеце афармляць падпіску. Кошт падпіскі сімвалічны – 9 рублёў 48 капеек.***

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй»! «Народная Воля» – з Вамі!**

ЧУЛІ?

## Мітрапаліт Веніямін пакараў святара за малітву аб абаронцах Украіны

Як паведамляла “Народная Воля”, на пачатку гэтага года быў затрыманы святар **Дыянісій Карасцялёў**, які ў навагоднім набажэнстве прачытаў запіску аб здароўі *“воінаў і абаронцаў Украіны“*. Нехта з прыхаджан паскардзіўся “куды і каму трэба”, святар быў затрыманы.

Цяпер стала вядома, што гэта гісторыя мае працяг.

У інтэрнэце з’явіўся ліст мітрапаліта Веньяміна, датаваны 4 студзеня і адрасаваны благачынным Мінскай епархіі. Правячы архіерэй адхіліў святара ад здзяйснення святадзействаў (фактычна, забараняе ў служэнні) да прынясення пакаяння. На думку мітрапаліта Веніяміна, малітва за абаронцаў Украіны *“справакавала сярод вернікаў непаразуменне і спрэчкі”*.

МОСКОВСКИЙ ПАТРИАРХАТ
БЕЛОРУССКИЙ ЭКЗАРХАТ
БЕЛОРУССКАЯ ПРАВОСЛАВНАЯ ЦЕРКОВЬ
МИНСКАЯ ЕПАРХИЯ

МАСКОЎСКІ ПАТРЫЯРХАТ
БЕЛАРУСКІ ЭКЗАРХАТ
БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ

220004 Республика Беларусь, г. Минск ул. Освобождения, 10. +37517 3574299, 3754601, minsk.eparchy@gmail.com, www.church.by

04 января 2023 г.
№ 1-04/002

**ОТЦАМ БЛАГОЧИННЫМ МИНСКОЙ ЕПАРХИИ**

Досточтимые отцы!

01 января 2023 года один из клириков Минской епархии при совершении молебна самовольно внес в текст чинопоследования молитвенное поминовение «воинов и защитников Украины», чем вызвал смущение среди прихожан. За проявленное самочиние, внесение дополнений в богослужебные чинопоследования без ведома и благословения епархиального архиерея и создание ситуации, спровоцировавшей среди верующих недопонимание и споры, в том числе – на политической почве, данный священнослужитель был временно отстранен от совершения священнодействий для принесения покаяния.

Прошу Вас принять во внимание описанную ситуацию, а также довести до сведения клириков Вашего благочиния о недопустимости подобного рода инцидентов, а также любых изменений или дополнений уставных богослужебных текстов без благословения епархиального архиерея.

Также прошу Вас напомнить священнослужителям, что Пастырь особенно должен помнить об ответственности за свои слова и поступки, где бы они ни были сказаны, в храме или в социальных сетях. Он никогда не выступает в качестве частного лица, все им сказанное в любом случае воспринимается как слова служителя Церкви. И в том случае, если эти слова не взвешены и не обдуманы, они приносят вред не только ему и его аудитории, но и всей Церкви.

+ Вениамин

Митрополит Минский и Заславский,
Патриарший Экзарх всея Беларуси

Нагадаем, што ў той самы час у Мінскім Свята-Елісавецінскім манастыры не проста моляцца, але і адкрыта збіраюць дапамогу расійскім ваенным, якія ваююць супраць Украіны. Тут мітрапаліт Веніямін нічога спрэчнага не бачыць. Ды што казаць, з яго вуснаў ні разу не прагучала абурэнне ваеннай агрэсіяй крамлёўскіх імперцаў.

Святар Дыянісій Карасцялёў – сын вядомага ў Мінску святара Ігара Карасцялёва – старшыні Сінадальнага аддзела БПЦ па ўзаемадзеянні з казацтвам, старшыні Сінадальнага аддзела БПЦ па царкоўным мастацтве, архітэктуры і рэстаўрацыі, благачынны 2-й Мінскай гарадской акругі, настаяцель прыхода храма іконы Божай Маці “Усіх тужлівых Радасць”. Дарэчы, на Вадохрышча мітрапаліт Веніямін асвячаў ваду менавіта ў гэтым храме.

**Ніна ЖВІРКО.**

ЖАХ!

## Шматдзетных бацькоў са Слуцка абвінавачваюць у забойстве трохгадовага сына

Трагедыя здарылася 14 студзеня. Вечарам у міліцыю паступіла паведамленне аб смерці трохгадовага хлопчыка ў Слуцку. У забойстве падазраюцца бацькі дзіцяці.

*“Бацькі запэўнівалі праваахоўнікаў, што малому проста стала дрэнна, і яны выклікалі хуткую дапамогу, аднак, нягледзячы на намаганні лекараў, выратаваць яго не ўдалося. Следчыя прызначылі судова-медыцынскую экспертызу для ўстанаўлення дакладнай прычыны смерці дзіцяці. Даследаванне паказала, што хлопчык памёр з-за моцнага ўдару па галаве”*, – паведамляе Следчы камітэт.

Бацькі загінулага дзіцяці затрыманы. У СК сцвярджаюць, што падчас допытаў яны прызналіся ў здзейсненым.

*“Падчас допытаў яны прызналіся, што рэгулярна збівалі дзіця, таму што хлопчык дрэнна сябе паводзіў і часта плакаў. За гэта сямейная пара карала сына, але ў той фатальны вечар, не разлічыўшы сілу, забілі да смерці”*, – сцвярджаюць у Следчым камітэце.

Дзеянні затрыманых кваліфікаваны п.2 ч.2 арт.139 КК (“Забойства заведама малалетняга”). Іх узялі пад варту. Іншыя дзеці ва ўзросце 1, 4 і 13 гадоў зараз знаходзяцца ў прытулку.

Следства працягваецца.

**Лілія ВАЎЧЭЦКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

# Адумаліся?

Нават праўладныя Тэлеграм-каналы, якія яшчэ нядаўна зацята цкавалі "беглых" і "нацыяналістычную апазіцыю", раптам адумаліся. Цытуем:

*"Згодна афіцыйным дадзеным Цэнтрвыбаркама, з агульнай колькасці ў 6.904.649 выбаршчыкаў за альтэрнатыўных кандыдатаў прагаласавала 823.392 грамадзяніны і яшчэ 267.363 – супраць усіх, – піша адзін з іх. – Давайце крыху абстрагуемся ад дыскурсу пра экстрэмістаў і літоўскіх самазванак. Улічваючы год міру і стварэння, абвешчаную магчымасць раскаяння і вызвалення ад адказнасці за менш цяжкія злачынствы, ці павінны мы вінаваціць у нечым 1.090.755 нашых суграмадзян?*

*Напрыклад, ёсць умоўны персанаж, які галасаваў за кандыдата Ганну Канапацкую, а ў сваіх сацсетках у той перыяд актыўна посціў агітацыю, ставіў "лайкі", магчыма нават б-ч-бэшныя сардэчкі (брэнд штаба Віктара Бабарыкі. –* **Заўв.**) *і заклікі галасаваць за свайго абранніка?*

*Але калі ён ні ў чым іншым не ўдзельнічаў і не працуе на дзяржслужбе, ці трэба ладзіць "паляванне на ведзьмаў": нават карысныя лекі пры доўгім прыёме пачынаюць наносіць шкоду арганізму.*

*Наяўнасць у Беларусі больш мільёна чалавек з іншым меркаваннем трэба ўспрымаць як дадзенасць. Калі спрабаваць іх пагалоўна кляйміць, звальняць, прыцягваць да адказнасці і так далей, – то зараз гэта стварае недарэчныя і нават небяспечныя ў доўгатэрміновай перспектыве кропкі напружання.*

*Прымірэнне і справядлівасць супраць інерцыі і рэакцыі!"*

Што здарылася? Чаму раптам змяніўся настрой?

Як заўсёды ў нас бывае, зверху была дадзена адмашка на прымірэнне, і штатныя прапагандысты ў момант адумаліся.

На гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка правёў нараду, на якой было вырашана стварыць камісію на чале з генеральным пракурорам Андрэем Шведам для разгляду персанальных пытанняў тых палітычных эмігрантаў, якія жадаюць вярнуцца ў Беларусь.

Праўда, ёсць умова.

*"Нам не трэба ствараць дадатковыя нейкія кропкі напружання ў нашым грамадстве. Таму я даручаў Адміністрацыі з удзелам грамадскасці дадзенае пытанне прапрацаваць і прапанаваць механізм магчымага рашэння* (гаворка аб вяртанні на радзіму тых, хто з'ехаў за мяжу пасля падзей у Беларусі 2020 года. – **Заўв.**). *Тыя, хто гатовы жыць у міры, працаваць дзеля сваёй краіны, не павінны быць адрынуты грамадствам. Гэта аксіёма. Гэта не я прыдумаў. І калі мы – людзі мудрыя, калі ўлада мае прыкметы мудрасці, яна павінна ў такім ключы і дзейнічаць. Нам трэба не закрывацца ад тых, хто спатыкнуўся і ўсвядоміў гэта, а зрабіць крок насустрач. Але толькі тым, хто вернецца або з месцаў не такіх аддаленых, або з-за мяжы і будзе, як у нас прынята казаць, «ябацькамі» яшчэ большымі, чым тыя, хто сёння нас акружае".*

Як гэта, быць "ябацькам" большым, чым тыя, хто атачае Аляксандра Лукашэнку? Нырку прадаць?..

Ды і яшчэ адно важнае пытанне застаецца – арышты і суды за ўдзел у пратэстах унутры Беларусі не спыняюцца. Калі эмігрантам улада гатова дараваць падобнае, то чым яны лепшыя за тых, хто застаўся ў Беларусі?..

Адказаў на гэтыя пытанні пакуль няма.

**Ігар МАРОЗАЎ.**




З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Шведу можна верыць?

*Генеральны пракурор* ***Андрэй Швед*** *у эфіры канала «Беларусь 1» распавёў пра тое, як будзе працаваць міжведамасная камісія і каго з беларусаў, якія з'ехалі, улады гатовы пусціць у краіну.*



Па словах Шведа, камісія будзе тлумачыць тым, хто з'ехаў, іхні статус і парадак вяртання. Яшчэ адна яе задача – прымяніць прававыя механізмы ў адносінах да тых, хто раскаяўся, *«з тым, каб яны і далей былі паўнавартаснымі грамадзянамі нашай краіны»*.

Прыкладны парадак дзеянняў пры звароце ў камісію, па словах Генпракурора, такі. Грамадзяніну неабходна будзе напісаць заяву, прыкласці да яе копію пашпарта, растлумачыць абставіны знаходжання за мяжой, напісаць, чаму ён лічыць, што да яго могуць быць прэтэнзіі. Таксама спатрэбіцца запаўнянні, што грамадзянін ёсць або будзе законапаслухмяным і ніколі не парушыць дзеючых законаў. Пасля таго камісія разгледзіць рашэнні і дасць пісьмовы адказ.

Андрэй Швед пералічыў катэгорыі беларусаў, якія могуць падаць зварот у камісію.

У першую групу ўваходзяць тыя, хто «шчыра памыляецца» адносна наяўнасці да іх прэтэнзій з боку дзяржавы.

*«Яны думаюць, што да іх ёсць нейкія прэтэнзіі, але насамрэч іх няма апрыёры, і яны шчыра памыляюцца»*, – заявіў Швед.

У другой групе – грамадзяне, якія здзейснілі нязначныя з пункту гледжання закону правіны, напрыклад звязаныя з адміністрацыйнай адказнасцю, або якія маюць прыкметы злачынства, не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі ці памыляюцца адносна наступстваў сваіх дзеянняў.

*«Можа быць, там даўно мінуў тэрмін даўніны. Можа быць, там мера пакарання, не звязаная з абмежаваннем і пазбаўленнем волі»*, – растлумачыў генеральны пракурор.

Трэцяя група – тыя, якія здзейснілі «менш цяжкія злачынствы», раскаяліся, публічна пра гэта заявілі, выклалі свае матывы раскаяння.

*«Ёсць дастатковая колькасць механізмаў прававых, дзе гэтая асоба ў адпаведнасці з законам панясе адказнасць, але гэтая адказнасць дакладна не будзе звязаная з пазбаўленнем альбо абмежаваннем волі. І такія гарантыі, што гэта асоба атрымае»*, – заявіў Швед.

Па словах Шведа, той, хто звярнецца ў камісію, зможа атрымаць падпісаны дакумент аб адсутнасці прэтэнзій і паказаць яго на мяжы.

Адначасова ж засцярогаў, што прэтэнзіі карных органаў могуць узнікнуць ужо пасля вяртання ў Беларусь пасля адказу камісіі, Швед адзначыў, што такое магчыма толькі з яго згоды.

*«Калі камісія прымае рашэнне ў дачыненні да дзеянняў, учыненых да прыняцця рашэння аб магчымасці ўезду, то якія-небудзь дзеянні ў дачыненні да гэтай асобы магчымыя будуць толькі са згоды генеральнага пракурора, гэта значыць старшыні камісіі.*

*У гэтым выпадку мы, вядома, будзем разбірацца. У гэтым выпадку мы даём гарантыю таго, што, вядома, ніякія меры працэсуальнага прымусу не будуць прымяняцца, калі толькі ён не здзейсніў цяжкае або асабліва цяжкае злачынства, якое ён утойвае»*, – сказаў генеральны пракурор.

Ён запэўніў, што камісія будзе старанна вывучаць кожнага з таго, хто звярнуўся, каб не прапусціць у Беларусь «экстрэмістаў і тэрарыстаў». Праверка будзе праходзіць *«у рамках тых інфармацыйных рэсурсаў і масіваў, якія ёсць у праваахоўнай сістэме»*.

Па словах Шведа, у першую чаргу камісія будзе працаваць з тымі беларусамі, якія раскаяліся і заявілі пра гэта публічна.

Швед таксама распавёў, якое пакаранне можа прымяняцца да людзей, калі камісія вызначыць іх віну. Сярод магчымых захадаў – унясенне грашовага закладу.

*«Здзейсніў злачынства. Ён звяртаецца да нас. Мы гаворым: так, аб'ектыўна пацвярджаецца ваша віна ў здзяйсненні такога злачынства, за якое можа быць у адпаведнасці з законам прызначаная такая і такая мера пакарання. У выпадку вашага дзейнага раскаяння, публічнага раскаяння вы можаце вярнуцца. Мы вам гарантуем, што ў дачыненні да вас не будзе абраная мера стрымання, звязаная з абмежаваннем свабоды, але пры гэтым украпнёныя іншыя інстытуты: паручыцельства, грашовы заклад, іншыя меры стрымання, не звязаныя з абмежаваннем свабоды»*, – заявіў ён.

Бліжэйшы час пакажа, ці многія беларусы гатовы Андрэю Шведу паверыць. Пакуль дзейнічае рэпрэсіўны механізм, у людзей узнікаюць розныя думкі.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Справа «аб падатках» ператварылася ў «змову на захоп улады»



Па тэрмінах знаходжання пад следствам у Беларусі да нядаўняга часу былі два рэкардсмены – **Эдуард Бабарыка**, сын Віктара Бабарыкі і кіраўнік яго передвыбарчага штаба, і **Ілля Шапаткоўскі** *(на здымку)*, які ў штабе займаўся праверкай подпісаў па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты былога старшыні праўлення "Белгазпромбанка". Цяпер рэкардсмен застаўся адзін – Эдуард Бабарыка.

Следчы камітэт паведаміў, што скончыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да Іллі Шапаткоўскага – аднаго з кіраўнікоў платформы «Сумленныя людзі», якую беларускія ўлады прызналі «экстрэмісцкай», паведамляе прэс-служба ведамства.

*"Па дадзеных следства, прадстаўнікі экстрэмісцкіх ячэек грамадства ў 2020 годзе, яшчэ задоўга да пачатку электаральнага працэсу, разгарнулі маштабную інфармацыйную кампанію па дыскрэдытацыі дзеючых органаў дзяржаўнай улады і выбарчага працэсу. З мэтай запуску інфармацыйнага шуму была створана падкантрольная экстрэмістам сетка інтэрнэт-рэсурсаў, тэлеграм-каналаў і псеўдаініцыятыў, якія актыўна спрыялі распальванню сацыяльнай варожасці ў грамадстве, псіхалагічнаму маніпуляванню грамадскай свядомасцю з ужываннем шырокага комплексу палітычных тэхналогій. Яскравы прыклад такой падкантрольнай ініцыятывы – "Сумленныя людзі", адным з кіраўнікоў якой з'яўляўся Шапаткоўскі.*

*Абвінавачаны адказваў за дэструктыўную інфармацыйную павестку, размяшчаючы медыяматэрыялы, накіраваныя выключна на нанясенне шкоды рэпутацыі дзяржаўных органаў, праваахоўнага блока і прадстаўнікоў улады. Мэта інфармацыйнай павесткі – закласці зерне сацыяльна-палітычнага супрацьстаяння ў грамадстве. Нягледзячы на тое, што Шапаткоўскі, асцярожнічаючы, не ўступаў у прамую змову па захопу ўлады, ён актыўна падзяляў ідэі злачынных фарміраванняў і спрыяў ім у дасягненні пастаўленых мэтаў шляхам забеспячэння інфармацыйнага суправаджэння, культываваў і прапагандаваў у грамадстве пратэстныя настроі, тым самым дзяліў беларусаў на «сваіх» і «чужых» па прынцыпе іх стаўлення да дзеючай улады.*

*Дадзеная дзейнасць фармавала радыкальна настроеныя групы і акумулявала іх у выглядзе натоўпаў на вуліцах, у тым ліку паблізу выбарчых участкаў. Так званую «жывую сілу» экстрэмісты імкнуліся выкарыстоўваць, як асноўны інструмент для дасягнення злачынных мэтаў і сілавога захопу ўлады.*

*Шапаткоўскаму прад'яўлена абвінавачванне па ч. 1 арт. 357 (іншыя дзеянні, учыненыя з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Да яго прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Матэрыялы перададзены пракурору для накіравання ў суд"*, – сказана ў паведамленні на сайце Следчага камітэта.

Што вядома пра Іллю Шапаткоўскага?

Ён – сябра сям'і Бабарыкаў. Пра сябе расказваў наступнае: "Бацька траіх дзяцей, бізнесмен у розных сферах, у тым ліку ў фінтэху, які каардынуе праекты».

У працы выбарчага штаба Віктара Бабарыкі Шапаткоўскі прымаў удзел з першых жа дзён, узначальваў каманду па верыфікацыі подпісаў па вылучэнні Віктара Дзмітрыевіча кандыдам у прэзідэнты. Пасля таго, як Віктара і Эдуарда Бабарыкаў арыштавалі, а подпісы забракавалі ў Цэнтрвыбаркаме, каманда займалася арганізацыяй незалежнага назірання за выбарамі.

*«Наша мэта – дамагчыся празрыстых і легітымных выбараў, пракантраляваць працэс і даць беларусам сумленныя лічбы. Калі мы ўбачым, што за кандыдата №1 (Аляксандра Лукашэнку) большасць, мы гэта шчыра канстатуем»*, – запэўніваў Ілля Шапаткоўскі ў адным з інтэрв'ю.

Празрыстыя і дэмакратычныя выбары гэта, як вядома, менавіта той шлях змены ўлады, які адпавядае Канстытуцыі і беларускаму заканадаўству. Тым не менш 4 жніўня 2020 года, у дзень, калі пачалося датэрміновае галасаванне на прэзідэнцкіх выбарах, Шапаткоўскі быў затрыманы. І не толькі ён, а адразу некалькі актывістаў ініцыятывы.

Першапачаткова паведамлялася, што Ілля затрыманы па "справе Белгазпрамбанка" і абвінавачваецца ў няўплаце падаткаў. Калі абвінавачванне ператварылася ў "дзеянні па захопе дзяржаўнай улады", нам невядома.

Нагадаем, што артыкул 357 Крымінальнага кодэкса Беларусі прадугледжвае пакаранне, як за змову па захопе ўлады, так і за дзеянні па яе ўтрыманні неканстытуцыйным шляхам. Па частцы 1 гэтага артыкула, па якой Шапаткоўскаму прад'яўлена канчатковае абвінавачванне, прадугледжана пакаранне ад васьмі да дванаццаці гадоў пазбаўлення волі.

**Іван ШАЎЛЮК.**

АБРАКАДАБРА

# В чем хочет убедить Россию Юрий Шевцов?

Мир не может понять, как это Владимир Путин так «прокололся» – ожидал взятия Киева чуть ли не за три дня; ожидал, что его армия не встретит в Украине сопротивления и, наоборот, будет принята в качестве освободителей…

Помните февраль-март 2022 года? Российские войска двигались к Киеву колоннами и везли с собой парадную форму. Еще чуть-чуть – и солдаты ехали бы на танках с гармонями… А вон что вышло – скоро год, как идет жесточайшая война, море крови, украинцы бьются за каждый клочок своей земли, ненависть зашкаливает.

Как же получилось, что в России так ошиблись с прогнозами?

Объясняем на белорусском примере.



### «Отказ от западного пути осуществлен сознательно»

В Беларуси есть политолог **Юрий Шевцов**, директор Центра по проблемам европейской интеграции, частый гость «умных» передач и дискуссий. В декабрьском номере журнала «Социодиггер», издаваемом Всероссийским центром изучения общественного мнения (это ведущая организация Российской Федерации по проведению соцопросов, государственное учреждение) опубликовано интервью с ним. И вот что говорит наш так называемый эксперт:

*«На массовом уровне белорусы очень хорошо знают Запад. До 2020 года в стране был самый высокий в мире процент людей, обладающих шенгенскими визами. Люди ездили в Вильнюс, те же студенты, – на денек походить по сувенирным улочкам, зайти в кабачки, из Вильнюса летали дешевыми лоукостами по всему миру. Массово ездили в Польшу – из Бреста до Варшавы в два раза ближе, чем до Минска – всего несколько часов, и вы в Варшаве. Через Гродно привыкли ездить в Белосток «на закупы». У литовцев целые сектора экономики развивались на приграничной торговле с Беларусью… В эту массовую коммуникацию с Западом были вовлечены большие массы белорусского населения в ряде регионов – прежде всего, в Минске, Гродно, Бресте.*

*Население Могилева и Гомеля тоже хорошо знает Запад, но имеет другую традицию коммуникации с ним, связанную с последствиями аварии в Чернобыле. Эта катастрофа пришлась на время распада Советского Союза и больших экономических сложностей в Беларуси. Тогда в охваченные радиацией регионы пришли западные гуманитарные организации, их было огромное количество. Временами их медикаменты составляли основную часть помощи в сельских регионах этих областей. Сотни тысяч детей побывали для оздоровления в семьях на Западе, в основном, в Италии, Германии, Ирландии. Жители Могилевской и Гомельской областей, особенно молодежь, в свое время столкнулись с лучшей частью западного общества. Это поколение детей, которое прошло через глубокую коммуникацию с Западом и является одновременно потомками тех, кто помнил Запад совсем другим – по немецкой оккупации. И вот эти факторы совместились. Из этой среды, кстати, вышла Светлана Тихановская, лидер белорусской эмиграции и националистической оппозиции, она в детстве ездила по чернобыльской линии в Ирландию.*

*В целом можно сказать, что в Беларуси через личное практическое общение с Западом прошло большинство общества, и отказ от западного пути здесь осуществлен сознательно».*

Вы поняли, в чем подвох этих рассуждений?

Эксперт утверждает, что белорусы хорошо знают Запад, столкнулись с лучшей частью западного общества, но все равно не полюбили его, сознательно отказались от западного пути.

Хотя кто и когда белорусов об этом спрашивал? Кто и когда давал белорусам возможность сделать такой выбор?

Выводы Ю.Шевцова противоречат и действительности, и ходу его собственного рассуждения. Ведь если до введения визовых ограничений белорусы являлись мировыми лидерами по обладанию шенгенскими визами, то логичнее было бы предположить, что это, как раз, свидетельство того, что желание не терять связь с Европой у белорусов очень велико. В конце концов, не силой же их тянули в визовые центры, не под принуждением они оплачивали немалые суммы за открытие «шенгена», не по разнарядке «Белой Руси» выезжали из страны в западном направлении.

Но можно не сомневаться, что вывод «авторитетного белорусского эксперта» и Кремлю, и соответствующим российским службам очень понравится. Они обязательно занесут его в свои досье и включат в прогнозы.

«Белорусы не любят Запад» – «галочка».

### «Православные, как в Москве»

Вторую «галочку» с подачи Юрия Шевцова получит характеристика – «Взаимная враждебность с западными соседями».

Вот что он говорит:

*«Когда житель Беларуси приезжал в Вильнюс, когда шел с вокзала до Старого города, он видел город в ужасном состоянии, огромные контрасты между районами города. Ни в Гродно, ни в Бресте, ни в Минске даже близко нет таких депрессивных частей, как в Вильнюсе. Потом, обычные жители Минска видели, что в том же Вильнюсе нечего делать: зашли в пару ресторанчиков, выпили пива, а дальше что? Их музеи для большинства жителей Беларуси не интересны. Тот же исторический музей, где история Великого княжества Литовского в литовской интерпретации, но даже у националистов есть вопросы к литовской идентичности.*

*Есть еще важные особенности. В Беларуси основная масса населения – православные, правильнее сказать – «советские православные», как в Москве. Но есть и католики – от 800 тысяч до 1,5 миллиона, живут, в основном, вдоль границы с Литвой. По происхождению они такие же поляки, которые живут на территории Вильнюсского края. С точки зрения литовцев, это не поляки, не славяне, не белорусы, а полонизированные, русифицированные литовцы-язычники, которых славяне по-разному славянизировали за последние 600 лет. На этом строится политика литуанизации поляков в Вильнюсском крае в Литве. И вот когда в Литву приезжают местные поляки или их потомки белорусы-католики из Минска, они воспринимают Литву вовсе не с восхищением, потому что о польско-литовских отношениях осталось в памяти много негативного. Кроме того, местные славяне в социальном плане находятся внизу, это бросается в глаза».*

Из описания Шевцовым Вильнюса понятно, что он там был лет пятнадцать назад. Но это ладно. По-настоящему удивляет легкость выводов, которую позволяет себе аналитик.

«Большинству жителей Беларуси» литовские музеи не интересны… А белорусские музеи им интересны? Неужели большинство жителей Беларуси посещают музеи?

«Воспринимают Литву вовсе не с восхищением»… А кто, когда и как это изучал и оценивал?

«Исторические обиды»… С этим аргументом после украинских событий вообще стоило бы быть осторожнее. В конце концов, целые трактаты были написаны о том, как поляки и украинцы ненавидят друг друга, но почему-то именно Польша первой протянула Украине руку помощи, приняла миллионы беженцев, стала и гуманитарным, и военно-техническим хабом для воюющего соседа. Почему? Неужели из-за взаимных исторических обид?..

### Мнение белорусов можно не учитывать

В данном случае мы имеем заангажированного эксперта, который не просто не видит объективную реальность, но даже не желает ее знать. Так, Юрий Шевцов отстаивает идеи, что никакая независимая социология Беларуси не нужна.

Только вдумайтесь! В любой сфере деятельности независимая экспертиза нужна: независимый аудит бизнеса, оппонент при защите диссертации, в Беларуси есть даже независимые (негосударственные) судмедэксперты. А вот в изучении общественного мнения, исходя из чего должны приниматься важнейшие государственные решения, оказывается, это лишнее.

*«В Беларуси была большая дискуссия еще лет пятнадцать назад, когда социологические структуры стали активно изучать белорусское общество. В основном, они были на западном финансировании, искали «ключики», как взорвать наше общество. И тогда в стране было введено лицензирование на общенациональные социологические опросы, очень жестко выстроено законодательство относительно социологических исследований. В результате есть всего несколько структур, которые имеют лицензию на проведение общенациональных социологических опросов. Но государственное управление и без них обходится, поэтому особой необходимости в них просто нет. По крайней мере, в независимых от государства формах эта деятельность невозможна»,* – заявляет Шевцов.

Что поняли вы из этой части интервью? Правильно! Что в Беларуси независимой социологии нет, а власть может действовать, ни на кого не оглядываясь.

Надо полагать, что приблизительно такими же посылами провоцировала Путина на войну украинская пророссийская «пятая колонна». Мол, Запад для большинства украинцев – враги, Россия – освободитель, соцопросам не верьте.

Как думаете, в чем хочет убедить Россию подобными заявлениями белорусский политолог Юрий Шевцов?

К сведению, в мире всё чаще разнообразные «фабрики мысли» – аналитики, аналитические центры, исследовательские группы – называют «пятой властью», потому что от них в значительной степени стало зависеть принятие решений. Вот только ни в России, ни в Беларуси, перенимая западный опыт, не учли, что «мозговые центры» эффективны только тогда, когда они по-настоящему независимы как в своих исследованиях, так и в своих выводах. А когда они пытаются угодить желаниям «патрона», то получается «Киев за три дня»… Или, как у Шевцова про белорусов, – «отказ от западного пути осуществлен сознательно»…

**Олег СНОВ.**

У ПАЛЁТ!

# Адкрываецца новы накірунак для беларускіх турыстаў

*4 сакавіка з Мінска ў Доху павінен вылецець першы турыстычны авіярэйс*



Такім чынам, для беларусаў адкрываецца новая краіна – Катар. Гэта адна з самых багатых краін свету. Але галоўная яе асаблівасць – унікальнае гарманічнае спалучэнне культурнай спадчыны, традыцый і сучасных тэхналогій.

Усё гэта для турыстаў дапаўняецца цудоўнымі пляжамі, гастраноміяй, арабскай культурай, актыўным адпачынкам, прыроднымі славутасцямі.

Так, працягласць берагавой лініі Катара складае 560 кіламетраў, і турысты могуць атрымаць асалоду ад пляжнага адпачынку літаральна праз паўгадзіны язды ад аэрапорта. Пляжы ў краіне чыстыя і дагледжаныя, гатэлі – раскошныя аазісы, з развітай інфраструктурай для ўсёй сям'і. SPA і фітнес-клубы – па цалкам даступных цэнах.

Катар здзівіць вас аб'ектамі культурнай спадчыны і футурыстычнымі архітэктурнымі вынаходніцтвамі. У краіне знаходзіцца адзін з самых прыгожых музеяў свету – Нацыянальны музей Катара, цудоўны Музей ісламскага мастацтва, ёсць велізарная колькасць галерэй, дзе выстаўляецца сучаснае мастацтва.



Тыя, каго вабяць прыродныя цуды, змогуць наведаць унутранае мора "Хор-Аль-Адаід" – месца, дзе пустыня сустракаецца з вадой, пячору Даль-аль-Месфер глыбінёй 40 метраў, мангравыя лясы Аль-Такіра, дзе можна сустрэць фламінга і іншых невядомых нам птушак…

Адным словам, у беларусаў з'явілася магчымасць адкрыць для сябе Катар. І адпачыць, і павучыцца. У часы, калі межы многіх краін для нас закрываюцца, гэта добрая навіна.

### Да ведама

Турыстычная віза на 30 дзён прадастаўляецца па прылёце ў Катар пры наступных умовах:

– тэрмін дзеяння пашпарта – 6 месяцаў з моманту заканчэння паездкі;

– наяўнасць 1000 долараў на крэдытнай картцы або наяўнымі;

– пацверджаны зваротны білет;

– пацверджанае браніраванне гатэля на пэўныя даты;

– кошт візы 100 катарскіх рыалаў (прыкладна 27 долараў). Хаця для чартарных турыстычных рэйсаў кошт візы пакрывае Офіс па турызме Катара, так што плаціць, можа, і не прыйдзецца;

– сертыфікаты аб вакцынацыі, ПЦР або антыген-тэсты не патрэбны.

**Ганна ГАРДЫНЕЦ.**



SOS!

# Плюс дзевяць…

*Праваабаронцы прызналі палітвязнямі яшчэ дзевяць чалавек.*

Гэта **Дзмітрый Адарачкін, Андрэй Купрэеў, Вадзім Баранаў, Мікіта Маляр, Максім Палянскі, Пётр Пятруша, Руслан Красаў, Аляксандр Сініца, Аляксандр Труш.**

Большасць з іх асуджаныя або ўзятыя пад варту «за абразу Аляксандра Лукашэнкі».

На сёння, па версіі праваабаронцаў, палітвязнямі ў Беларусі лічацца 1437 чалавекі.

ДА ВЕДАМА

# Дапамога павялічыцца…

*З 1 лютага на 9 працэнтаў павялічваецца дапамога па доглядзе дзіцяці да трох гадоў.*

Паводле інфармацыі Міністэрства працы, з наступнага месяца і да канца ліпеня на першае дзіця будуць плаціць 605,99 рубля, на другое і наступных дзяцей – 692,56 рубля, на дзіця-інваліда – 779,13 рубля. Усяго на выплату дапамогі па доглядзе за дзецьмі да трох гадоў у 2023 годзе плануюць выдаткаваць 2 млрд рублёў.

Гэтую дапамогу пералічваюць двойчы на год – з пачатку лютага і пачатку жніўня. Яны разлічваюцца з сярэднямесячнага заробку за папярэдні квартал.

Сярэдні заробак у Беларусі ў снежні 2022 года склаў 1915,6 рубля – гэта на 267,4 рубля больш, чым у лістападзе.

**Ігар СТАСЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
27 СТУДЗЕНЯ 2023 г.

ПАВУЧАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Як белыя чарвячкі напалохалі жабінкаўцаў

Сітуацыя мела месца ў снежні мінулага года. У Жабінкаўскую ЖКГ паступіла заяўка ад жыхара дома №14 па вул. Маладзёжнай, які выявіў у сваім хатнім фільтры дадатковай ачысткі вады дробных белых чарвякоў і, вядома ж, захацеў разабрацца ў сітуацыі.

Як паведамляе "Вячэрні Брэст", работнікі Жабінкаўскай ЖКГ правялі маштабнае даследванне Цэнтральнай вадаправоднай сеткі ўсяго горада і ўнутраных водаправодных сетак па месцы інцыдэнта. Высветлілася, што праблема ў мужчыны і яго суседзяў паўстала з-за несвоечасовай замены элементаў, якія фільтруюць ваду ў кватэрах жыхароў канкрэтнага дома. «Дадзеная праблема не з'яўляецца агульнай для водазабеспячэння горада», – канстатавалі спецыялісты.

У доме №14 па вул.Маладзёжнай былі праведзены работы па прамыванні і хлараванні ўнутранай сістэмы водазабеспячэння, дэзінфекцыя гэтай сістэмы, а на ўводзе ў дом усталяваны помпа-дазатар хларавання вады. Службамі Жабінкаўскай ЖКГ і лабараторным аддзелам Брэсцкага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі сем разоў адбіраліся ўзоры проб пітной вады для аналізу. Цяпер вада адпавядае ўсім санітарным нормам.

«Чарвякі разводзяцца не ў самой вадзе, а на паверхні фільтраў дадатковай ачысткі, устаноўленых жыхарамі, з парушэннем тэрмінаў іх эксплуатацыі. Падчас адсутнасці забору вады (у начны час) чарвякі трапляюць з фільтраў у сістэму водазабеспячэння дома, што выклікае дадзеную праблему ва ўсіх жыхароў дома», – пракаментаваў сітуацыю дырэктар прадпрыемства «Жабінкаўская ЖКГ» **Мікалай Моталыга**.

Але гэтая гісторыя – на заметку ўсім, хто паставіў фільтры вады, але не своечасова іх абслугоўвае.



У ТЭМУ

### Як вызначыць, што вада няякасная?

* Калі на посудзе застаюцца зялёныя ці бурыя кроплі, гэта сведчыць аб тым, што ў склад вады ўваходзіць шмат салянай і сернай кіслаты.

* Калі вада аддае зямлістым, драўняным або рыбным пахам, гэта сведчыць аб тым, што ў склад вады ўваходзяць арганічныя злучэнні.

* Калі на срэбным посудзе або на ракавіне застаюцца цёмныя плямы, то ў вадзе маецца серавадарод.

* Калі пры кантакце вады і алюмініевага посуду ўтвараецца пена, гэта сведчыць пра тое, што ў вадзе высокая канцэнтрацыя шчолачы.

* Металічны смак вады кажа аб тым, што ў яе склад уваходзіць шмат жалеза.

* Калі вада бяжыць з бурым або чырванаватым асадкам, гэта сведчыць пра тое, што вада ў трубах акісляецца жалезам.

* Калі вада брудная або каламутная, гэта значыць, што ў трубах шмат паветра або прысутнічае метан.

**Ніна ЖВІРКО.**

ЦЭНЫ

# Што падаражэла, а што патаннела ў Беларусі?




Паводле звестак Белстата, у снежні 2022 года гадавы прырост спажывецкіх цэн у Беларусі склаў 12,8 працэнта. Прадукты харчавання падаражэлі на 13,8, нехарчовыя тавары – на 13,7, паслугі – на 10 працэнтаў, паведамляе myfin.by.

Вось як змяніліся цэны на тавары і паслугі па выніках 2022 года…

### Што падаражэла?

У гадавым вылічэнні (снежань 2022 года да аналагічнага месяца 2021 года) больш за ўсё падаражэў цукар-пясок. Яго кошт павялічыўся на 50,17 працэнта. Далей ідуць бананы і цытрусавыя, кошт якіх вырас за год на 49,19 і 47,03 працэнта адпаведна. Нехарчовыя тавары таксама прадэманстравалі рост, асабліва парфумерна-касметычная прадукцыя (у тым ліку тавары для асабістай гігіены).

Першая дзясятка тавараў, якія больш за ўсё падаражэлі, выглядае так:
цукар-пясок (+50,17 працэнта);
бананы (+49,19);
плады цытрусавых (+47,03);
шампунь (+42,99);
масла матрнае (+41,44);
перац салодкі (+41,05);
дэзадарант (+39,12);
падгузнікі, гігіенічныя пакеты (+37,92);
мыйныя сродкі для аўтамабіляў (+37,50);
лак, бальзам для валасоў (+37,04).

Акрамя таго, прыкметна дадалі ў кошце запчасткі да транспартных сродкаў (+36,92 працэнта) і легкавыя аўтамабілі (+33,43), харчовая сода (+33,88), распушчальная кава (+29,61), морапрадукты (+26,77), шампанскае (+24,51).

Рост коштаў назіраўся па такіх таварных групах, як папярова-белавыя тавары (на 30,02 працэнта), тавары бытавой хіміі (на 28,87), тытунёвыя вырабы (на 26,05), парфумерна-касметычныя тавары (на 25,61), сінтэтычныя мыйныя сродкі (на 23,25 працэнта).

З паслуг найбольшы рост за год паказалі паслугі фотаатэлье (+26,21), рамонт ювелірных вырабаў (+24,19) і гадзіннікаў (+21,14 працэнта).

Канкрэтна ў снежні 2022 года (у адносінах да папярэдняга месяца) выраслі цэны на гароднiну і садавіну – на 14,46 і 4,76 працэнта адпаведна: свежыя агуркі сталі даражэйшымі на 43,48, памідоры – на 17,36, вінаград – на 15,27, грушы – на 11,62, яблыкі – на 8,90.

Павялічыўся таксама кошт паслуг пасажырскага транспарту, у тым ліку паветранага – на 14,63 працэнта. Паслугі страхавання легкавога аўтатранспарту выраслі на 14,57, міжнароднага турызму – на 3,67, рытуальныя паслугі – на 4,60 працэнта.

### Што патаннела?

Калі казаць пра тавары, то больш за ўсё ў гадавым выражэнні знізіліся цэны на некаторую гароднiну, а таксама на шэраг нехарчовых тавараў, у тым ліку на канкрэтныя прадметы адзення і мэблі.

У топ-10 тавараў па зніжэнні цэн увайшлі:
белакачанная капуста (-57,59 працэнта);
буракі (-34,92);
бульба (-29,84);
морква (-24,13);
часнок (-11,78);
вінаград (-8,93);
рэпчатая цыбуля (-6,14);
гарнітур, сарафан, камплект для дзяўчынкі (-4,85);
піламатэрыялы іглічныя абразныя і неабразныя (-4,84);
крупы грачаныя (-3,78).

На гароднiну ў цэлым цэны знізіліся на 5,83 працэнта. Таннейшымі сталі набор мэблі для спальні (на 3,58), гарнітур для пярэдняга пакоя (на 2,93), бялізна для нованароджаных і дзяцей ясельнага ўзросту (на 2,40), школьны касцюм (на 2,20), натуральны мёд (на 1,48 працэнта) і некаторыя іншыя тавары.

Што тычыцца паслуг, то цэны ўпалі толькі на ацяпленне (-4,06 працэнта), а кошт паслуг па страхаванні будынкаў, якія належаць грамадзянам, застаўся на ранейшым узроўні. Астатнія паслугі выраслі ў цане.

За снежань 2022 года ў адносінах да лістапада больш за ўсё патаннелі салодкі перац – на 6,64 працэнта, грэчка – на 5,78, сантэхнічная арматура – на 5,50, музычныя цэнтры – на 4,47, боты ці чаравікі з футрам – на 4,13, іглічныя піламатэрыялы – на 4,03 працэнта.

Тэхнічнае абслугоўванне транспартных сродкаў (легкавых аўтамабіляў) стала танней на 0,85 працэнта, кошт медыцынскіх паслуг паменшыўся на 0,08. Цэны на шэраг іншых паслуг (гарадская тэлефонная сувязь, паслугі дашкольных устаноў, паслугі фотаатэлье) засталіся на тым жа ўзроўні, што і ў лістападзе.

САНКЦИИ

# Санкционный список США претерпел существенные изменения

США вводят санкции против 25 представителей белорусских властей – чиновников и депутатов Палаты представителей. Об этом, согласно сообщению агентства Reuters, заявил госсекретарь США Энтони Блинкен.

Причиной санкций называются «заочные суды» над оппонентами Александра Лукашенко, включая Светлану Тихановскую. Такие суды, заявил госсекретарь США, подрывают демократию в стране. Кроме того, по его словам, под ограничения попали те, кто принял участие во введении смертной казни в Беларуси для лиц, осужденных за «терроризм».

«Мы не останемся в стороне, так как этот режим продолжает преследовать и репрессировать мирных демонстрантов, демократическую оппозицию, журналистов, активистов, правозащитников и обычных белорусов», – сказал госсекретарь США.

Имена тех, кто попал под санкции, пока не называются. Но «Народная Воля» изучила действующий санкционный список по Беларуси, размещенный на сайте Минфина США, и увидела кое-что интересное.

Например, вы знали, что в этом списке уже нет фамилий тех, кого подозревали в причастности к исчезновению оппозиционных политиков Юрия Захаренко и Виктора Гончара, бизнесмена Анатолия Красовского и журналиста Дмитрия Завадского?

Вы знали, что бывшая глава Центризбиркома Лидия Ермошина не включена в санкционные списки США? Согласно имеющейся информации, Лидия Ермошина находится под санкциями ЕС, Швейцарии и Канады. Но не Соединенных Штатов Америки.

А еще выясняется, что в санкционном списке нет Виктора Лукашенко. Хотя он в нем точно был, с 2006 года. Но тогда Виктор Лукашенко занимал должность помощника президента по национальной безопасности, а сейчас возглавляет Национальный олимпийский комитет. НОК, как раз, под санкциями. А лично Виктора Лукашенко в списке уже нет (если, конечно, это не какая-то бюрократическая ошибка).

Напомним, что санкции против Беларуси вводились за разное – за выборы, за жесткое подавление протестов, за кризис с мигрантами, за принудительную посадку самолета Raynair, за поддержку войны в Украине. Кто же в итоге остался в санкционном списке?

Авраменко Алексей, министр транспорта.
Аземша Сергей, заместитель председателя Следственного комитета.
Алексин Алексей, бизнесмен.
Алёкса Александр, один из руководителей ГУБОПиК.
Астрейко Александр, начальник УВД Минского облисполкома.
Атабеков Хазалбек, бывший заместитель командующего внутренними войсками. Освобожден от должности в марте прошлого года.
Балаба Дмитрий, командир минского ОМОН.
Барсуков Александр, бывший заместитель министра внутренних дел. Помощник президента, инспектор по Минску.
Басков Дмитрий, бывший председатель Федерации хоккея, член Совета Республики.
Бедункевич Михаил, один из руководителей ГУБОПиК.
Бунаков Андрей, гендиректор «Белшины».
Буткевич Игорь, зампредседателя Госпогранкомитета.
Бычек Константин, замначальника Следственного управления КГБ.
Васильев Анатолий, заместитель председателя Следственного комитета.
Вашкевич Владимир, сотрудник ГУБОПиК.
Ветеневич Александр, замдиректора МЗКТ.
Вольфович Александр, госсекретарь Совета безопасности.
Воробей Николай, бизнесмен.
Гайдукевич Олег, депутат Палаты представителей.
Гора Дмитрий, бывший зампредседателя КГБ, глава Следственного комитета.
Гриб Михаил, начальник ГУВД Мингорисполкома.
Гуржий Андрей, член Центризбиркома.
Гутник Игорь, начальник Брестского погранотряда.
Давыдько Геннадий, депутат Палаты представителей.
Дмухайло Елена, бывший член ЦИК.
Дорошенко Ольга, член ЦИК.
Дриль Глеб, начальник ЦИП на Окрестина.
Живлюк Александр, один из руководителей ГУБОПиК.
Зайцев Александр, бизнесмен.
Зубков Сергей, командир спецподразделения «Альфа».
Ипатов Вадим, заместитель председателя Центризбиркома.
Казакевич Геннадий, заместитель министра внутренних дел.
Калиновский Сергей, заместитель министра юстиции.
Караев Юрий, бывший министр внутренних дел, помощник президента по Гродненской области.
Карпенков Николай, заместитель министра внутренних дел.
Кацубо Светлана, бывший член ЦИК.
Кочанова Наталья, председатель Совета Республики.
Кенюх Игорь, начальник ИВС Мингорсполкома.
Ковач Дмитрий, один из руководителей ГУБОПиК.
Корзюк Дмитрий, заместитель министра внутренних дел.
Кубраков Иван, министр внутренних дел.
Лаппо Анатолий, председатель Госпогранкомитета.
Лапыр Владимир, сотрудник ЦИП на Окрестина.
Ларин Олег, начальник управления в ГУБОПиК.
Лосякин Александр, член ЦИК.
Лукашенко Александр, Лукашенко Галина, Лукашенко Дмитрий.
Ляшенко Игорь, глава «Белнефтехима».
Молостов Константин, начальник Гродненской пограничной группы.
Назаренко Юрий, бывший командующий Внутренними войсками.
Новиков Сергей, заместитель председателя Госпогранкомитета.
Пантус Дмитрий, председатель Государственного военно-промышленного комитета.
Паршин Андрей, бывший начальник ГУБОПиК.
Печень Игорь, заместитель председателя Госпогранкомитета.
Плышевский Игорь, начальник Главного управления юстиции Мингорисполкома.
Подлинев Роман, зампредседателя Госпогранкомитета.
Рахманова Марина, бывший член ЦИК.
Россолай Вячеслав, заместитель председателя Госкомвоенпрома.
Римашевский Алексей, гендиректор МЗКТ.
Рыбаков Андрей, глава «Белнефтехима».
Сикорский Артем, директор Департамента авиации.
Слижевский Олег, бывший министр юстиции.
Сысоев Василий, начальник управления в ГУБОПиК.
Тертель Иван, председатель КГБ.
Целиковец Ирина, бывший член Центризбиркома.
Шакута Дмитрий, спортсмен.
Шандарович Олег, заместитель председателя Следственного комитета.
Шапетько Евгений, один из руководителей изолятора на Окрестина.
Шатров Александр, руководитель компании Synesis (система распознавания лиц использовалась для идентификации участников протестов).
Хоронеко Вячеслав, гендиректор аэропорта «Минск».
Хренин Виктор, министр обороны.
Чемоданов Денис, один из руководителей ГУБОПиК.
Чуро Леонид, директор «Белаэронавигации».
Швед Андрей, Генеральный прокурор.
Шманай Дарья – теперь работает советником-посланником в белорусском посольстве, ранее часто сопровождала Александра Лукашенко.
Эйсмонт Наталья, пресс-секретарь Александра Лукашенко.

В санкционном списке США есть «белорусы», о которых нам неизвестно, например, Ёнг Нам – некий деятель северокорейского происхождения.

Или украинец Станислав Шевчук – представитель российского имперского движения в Европе.

А еще в декабре прошлого года санкции были введены против гражданки нашей страны Ирины Литвинюк, которую посчитали причастной к российской коррупции в горнодобывающей промышленности Гватемалы.

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

